

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993
КАСТРЫЧНІК
6
СЕРАДА
№ 189 (624)
Цана
10 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### «КУРС» УЗЯТЫ НА КАТЭДЖ

Па звестках БелаПАН, на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі плануецца разгледзець праект Нацыянальнай жыллёвай праграмы.

Гэты дакумент, у прыватнасці, прадугледжвае новы парадак забеспячэння насельніцтва рэспублікі жыллём, прычым ухіл зроблены менавіта на кааператыўнае і індывідуальнае будаўніцтва.

Сярод спецыялістаў, якія распрацавалі гэты праект, — прадстаўнікі міністэрстваў юстыцыі, фінансаў, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Дзяржбуда.

Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.

### Дождались мяса. По новым ценам

Как сообщила корреспонденту РИДа начальник планового отдела Минского объединения мясной промышленности Инна Калита, недопоставка сырья для этого производства в сентябре составила более 4 тысяч тонн (вместо 10300 тонн на предприятие было завезено всего около 6 тысяч). Объяснение этому — ожидание основными производителями мяса повышения оптовых цен на свою продукцию. Кстати, этого они и дождались в первых числах текущего месяца: с 4 октября для перерабатывающих заводов подорожала птица, а с 6 ожидается рост стоимости туш крупного рогатого скота и свиней.

### «ЗОЛОТЫЕ» ЯЙЦА

*Сегодня десяток яиц в магазинах госторговли стоит уже 530 рублей. За месяц яйца выросли в цене в два раза, 1 килограмм мяса несушек теперь обойдется покупателю в 1300 рублей, а бройлеров — в 1550.*

*Как сообщила корреспонденту РИДа экономист мясной птицефабрики имени Н.К.Крупской Наталья Кошуба, «потолка росту цен на продукцию предприятия еще не видно». Цены на мясо и яйца растут вместе с ростом стоимости комбикорма. Если неделю назад 1 килограмм его стоил 260 рублей, то сегодня — 400.*

Анатолий РОМАНОВИЧ.

□ ГРАМАДА

### ЮБІЛЕЙ ПАТРАБУЕ ПАДТРЫМКІ

Уласн. інф. «ДВ».

Ад імя фінансавай групы Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванню ў Беларусі 200-х угодкаў вызваленчага паўстання 1794 года яе старшыня Мікола Савіцкі паведаміў, што на рахунак 700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка, код 763 пачалі паступаць ахвяраванні ад жыхароў краіны. Першымі адгукнуліся і даслалі грашовыя пераводы мінчукі Віталь Гірко (300 руб.), Георгій Штыхаў (1000 руб.), Рая Кондрусь (1000 руб.), а таксама берасцеец Уладзімір Чарнышоў (2000 руб.) і Пятрусь Кожар з Оршы (200 руб.). Паступленні працягваюцца.

Аргкамітэт шчыра дзякуе ўсім, хто адгукнуўся на яго зварот, і выказвае спадзяванне, што матэрыяльная і духоўная падтрымка жыхарамі Беларусі слаўнага юбілею дазволіць падрыхтаваць і правесці яго належным чынам.

□ СКОРО, СКОРО

С 22 ПО 25 ОКТЯБРЯ В ТЕАТРАХ МИНСКА ПРОЙДЕТ МЕЖДУНАРОДНЫЙ ФЕСТИВАЛЬ МОНОСПЕКТАКЛЕЙ «Я».

В нем примут участие два представителя Англии и Польши, по одному из Литвы и Германии и 6 — Беларуси. Победителям в качестве призов будут вручены работы художников Артемовых.

Ирина ЗАЙЦЕВА.

□ КОРОТКО

*С 4 по 6 октября в Минске находилась с визитом делегация из Центральной Норвегии (Норд-Тронделаг) во главе с председателем областного муниципалитета господином Кольбьери Алмлид. В составе делегации была и секретарь Посольства Норвегии на Украине и в Республике Беларусь госпожа Анне Грета Рисе. Гости из Норвегии были приняты в Мингорисполкоме, где имели беседу с заместителем председателя П.Г.Никитенко.*

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў XXI склікання паведамляе, што XIII чарговая сесія гарсавета пачне сваю работу 12 кастрычніка гэтага года ў 9 гадзін у памяшканні Мінгарсавета (пр.Ф.Скарыны, 8, чацвёрты паверх, зала сесій).

Рэгістрацыя народных дэпутатаў пачнецца з 8.30.

### НЕКАМУНІСТЫ ЗБЯРУЦЦА НА ТЫДЗЕНЬ ПАЗНЕЙ

Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы канферэнцыі некамуністычных і антыімперскіх сіл прыняў рашэнне аб пераносе даты правядзення гэтага форуму з 10 на 16 кастрычніка. Галоўная прычына гэтага, па звестках БелаПАН, — жаданне арганізатараў забяспечыць максімальнае прадстаўніцтва дэмакратычных арганізацый на канферэнцыі, для чаго, зразумела, трэба час. Вызначана, што асноўным крытэрыем для ўдзелу ў форуме павінна стаць падтрымка наступных прынцыпаў: неабходнасць датэрміновых выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган рэспублікі, стварэнне кааліцыйнага ўрада і абарона незалежнасці Беларусі.

Рэдакцыйную камісію аргкамітэта ўзначаліў сакратар Управы БНФ Вінцук Вячорка. Камісіі належыць падрыхтаваць да канферэнцыі праекты двух дакументаў, якія датычаць названых прынцыпаў.

Алесь КНЯЗЮК, БелаПАН.

### ЭПІЦЭНТР ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

14 кастрычніка ў Мінску адбудзецца ўрачыстае адкрыццё першага ўзорнага навучальнага цэнтра для дзелавых людзей у Беларусі, арганізаванага фірмай з Саксоніі, ФРГ. Праект цэнтра, які фінансуецца Міністэрствам адукацыі і навукі, з'яўляецца першым ва ўсіх рэспубліках СНД. Мэта навучання — падрыхтоўка спецыялістаў-выкладчыкаў у галіне індустрыі, гандлю і банкаўскай справы. Прафесійную падрыхтоўку слухачоў узяў на сябе Федэральны інстытут прафесійнай адукацыі. Прыватная акадэмія эканомікі і адукацыі з Саксоніі выступае партнёрам у рэалізацыі праекта-мадэлі. Акадэмія, якая з'яўляецца прызнаным лідэрам у галіне адукацыі ў новых федэральных землях, прапануе ноў-хаў для далейшага навучання настаўнікаў і выкладчыкаў, запрашае дацэнтаў і бярэ на сябе ажыццяўленне праекта.

«Новым ва ўзорным цэнтры ў Беларусі з'яўляецца тое, што мы будуем навучанне на падставе індывідуальных планаў і тым самым актыўна падтрымліваем працэс рэформ у структурах», — падкрэсліў член акадэміі Ханс Петэр Нольдэн. Пад кіраўніцтвам Федэральнага інстытута прафесійнай адукацыі нямецкімі і беларускімі экспертамі сумесна быў выпрацаваны вучэбны план. У рамках сумеснага прадпрыемства беларускі бок, у прыватнасці, прадастаўляе памяшканні ў Мінску, размяшчае дацэнтаў і выкладчыкаў, бярэ на сябе бягучыя расходы.

БелаПАН.

□ ВЫСТАВКИ

### КРАСОТА СПАСЕТ МИР

СТАРАЯ истина, которая гласит о том, что красота спасет мир, была девизом этой выставки. Два молодых художника Александр Вахрамеев и Владимир Концедайлов открыли ее в Троицком предместье в галерее «Ковчег». В наше нелегкое время художники продолжают нормально жить, встречаться с друзьями и творить. Оба — выпускники БГТХИ. С 1987 года активно участвуют во многочисленных выставках, а их работы находятся в частных коллекциях Беларуси, России, Латвии, а также за рубежом в Италии, Франции, Испании, Германии, Голландии, Израиле, США.





НА СНИМКАХ: посетители; два автора выставки (на нижнем снимке).

Текст и фото Александра КУШНЕРА.

### КАК МНОГОСЛОВЕН ЭТОТ МИР, ПОСМОТРИ!

В Минске открылась выставка словарей, вышедших в республике за последние семь десятилетий.

Экспозиция организована совместными усилиями Министерства информации, а также Национальной книжной палатой Беларуси, из фондов которых и взято большинство представленных на выставке старых изданий. «Молодое поколение» словарей представлено продукцией нынешних государственных и коммерческих структур. В экспозиции, состоящей из пяти разделов (энциклопедические, языковые, терминологические словари, разговорники и словари других стран), представлено более пятисот названий этих изданий. Цель выставки — координация и активизация деятельности соответствующих структур по выпуску словарной продукции в республике, в частности, белорусской тематики. Ведь не секрет, что многие белорусские словари (например, о природе, сельском хозяйстве) по уровню не уступают аналогичным зарубежным изданиям.

Сергей РАСОЛЬКО.

■ ДАСЛОЎНА

## БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫКІ АБ ПАДЗЕЯХ У МАСКВЕ

Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛІНФАРМ.

Выканаўчы каардынатар дэпутацкага аб'яднання «Беларусь» Генадзь Казлоў, каменціруючы падзеі, што адбываюцца ў Маскве, выказаў шкадаванне наконт такога развіцця падзей. «Вельмі сумна, што праліласся кроў», — сказаў ён. На думку Генадзя Казлова, скарацечнага вырашэння пытання не прадбачыцца. «Перш за ўсё неабходна ўсім абразуміцца. Ёсць класічнае выйсце з узнікшай сітуацыі — адначасовыя выбары і Вярхоўнага Савета, і Прэзідэнта, тым больш, што, як мне вядома, усе суб'екты федэрацыі згаджаюцца на гэты варыянт», — сказаў Генадзь Казлоў. Для гэтага, лічыць ён, неабходна перадаць функцыі парламента і Прэзідэнта Савету Федэрацыі і прыняць закон аб выбарах. Пры гэтым Генадзь Казлоў задаўся пытаннем: «Калі заканадаўчай улады няма, то хто яго прыме?»

«Улады праявілі максімальную вытрымку», — заявіў карэспандэнту БЕЛІНФАРМа намеснік старшыні Беларускага народнага фронту народны дэпутат Уладзімір Заблоцкі. Аднак, ён лічыць, што Ельцын усё ж патураў апазіцыйным сілам. На думку Заблоцкага, з распушчаным Вярхоўным Саветам і з'ездам не трэба было весці перагаворы. На шчасце, сілы, якія спадзяваліся на лібералізм улады, памыліліся. Ён адзначыў, што аб'яднанне фашыстаў і камуністаў даказвае неабходнасць правядзення суда над камуністычнай ідэалогіяй. «Іншага выйсця, чым суд над чырвона-карычневымі, няма», — лічыць народны дэпутат. Так, без маральнага ачышчэння нацыі рух да дэмакратыі немагчымы. Ён таксама адзначыў, што кіруючыя колы Беларусі жадаюць уступіць у саюз з камуністычнай, а не з дэмакратычнай Расіяй. Уладзімір Заблоцкі выказаў занепакоенасць, што Беларусь можа стаць «адстойнікам камуністычных сіл».

Як заявіў карэспандэнту БЕЛІНФАРМа сакратар ЦК ПКБ Віктар Чыкін, даваць ацэнку падзеям у Маскве складана, бо не вядома праўда аб тым, што там адбываецца. Ён сказаў, што не верыць ні аднаму слову, што гучыць па тэлебачанні і радыё. Віктар Чыкін лічыць, што ў Расіі ўстаноўлена дыктатура ў асобе Ельцына, які паўтарыў шлях Пінача. Ён таксама мяркуе, што не пераможа ні адзін з праціборствуючых бакоў, а прыйдзе нейкая трэцяя сіла. «Можа паўтарыцца сітуацыя 1991 года, калі развалілі Савецкі Саюз. Толькі цяпер — распадзецца Расія», — адзначыў Віктар Чыкін. Ён падкрэсліў, што за ўсё, што адбываецца, нясуць адказнасць усе галіны ўлады. «Няхай прыдуць тыя, — адзначыў ён, — у каго «рукі чыстыя». На думку Віктара Чыкіна, праводзіць датэрміновыя выбары ў Беларусі няма неабходнасці, трэба правесці нечарговую сесію, на якой разгледзець пытанне аб адстаўцы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які падтрымаў антыканстытуцыйны пераварот у Расіі.

### КАЛЯНДАР

Серада, 6 кастрычніка.
*СОНЦА — 6.19/17.36.*
*Даўжыня дня — 11.17.*
*МЕСЯЦ — апошняя квадра 8 кастрычніка, захад 11.11/усход 18.56.*

ІМЯНІНЫ

*Сёння:*
*Праваслаўныя — Івана, Іраіды.*
*Каталіцкія — Артура, Брунона.*

*Заўтра:*
*Праваслаўныя — Нікандра, Уладзіслава, Фёклы.*
*Каталіцкія — НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ РУЖАНЦОВАЙ; Марыі, Марка.*



■ МИЛОСЕРДИЕ

### ЗНАК ДРУЖБЫ И СОЛИДАРНОСТИ

Соб. инф.

Весной этого года, в канун седьмой годовщины чернобыльской катастрофы, минский фонд «26 апреля» направил в Шотландию 10 детей, пострадавших от Чернобыля. В районе Галовэй детей принимали простые шотландские семьи. Координатором группы была Рода Рагг, организовавшая сбор средств для приема детей в Шотландии и подготовившая семьи к их приему. Дети подружились с гостеприимными, дружелюбными шотландцами. В Минск тогда вместе с ними прибыл груз гуманитарной помощи — медикаменты, поливитамины, перевязочный материал для медицинских учреждений города.

Вскоре после отъезда наших детей члены комитета Галовэй по инициативе их координатора Роды Рагг решили направить в качестве дара для медицинских учреждений Минска партию медикаментов и поливитаминов. Отправить этот груз решено было на автомобиле марки «Аустин, Мини-метро», который предназначался в качестве безвозмездного дара от организации Галовэй фонду «26 апреля». Провести этот автомобиль через границы четырех государств — Великобритании, ФРГ, Польши и Беларуси взялись Пени Голд, в семье которой гостили весной наши дети, и ее сестра из Уэльса Мери Джейн Кэри. Несмотря на все трудности дальнего пути, груз прибыл на днях в Минск. Этот дар от чистого сердца — знак дружбы и солидарности. Подтверждение этому и решение, принятое на ежегодном заседании шотландского отделения английской общественной организации «Жизнь для детей Чернобыля» о приеме еще одной группы наших детей в Шотландии в будущем году.



■ ГЭТА ФАКТ

### КВАЛІФІКАВАНЫЯ АСТАПЫ

Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.

*На мінулым тыдні супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення Цэнтрабанка Расіі па Маскве своечасова выкрылі спробу «электроннага махлярства» на суму большую як 68 мільярдаў рублёў. Злачынцы былі ў змове з шэрагам камерцыйных структур, якія з'яўляліся кліентамі васьмі маскоўскіх банкаў. Прычым кліентамі даволі буйнымі і вядомымі. Махляры хацелі правесці фіктыўныя плацяжы з выкарыстаннем мадэмнай сувязі. Гэта ўжо вам не фальшывая авіза, тут здзіўляе і ўражвае кваліфікацыя нашчадкаў Бендэра ў галіне праграміравання і ў пытаннях электронных разлікаў паміж камерцыйнымі банкамі і разлікова-касавым цэнтрам.*

*Кваліфікацыя кваліфікацыяй, але, як кажуць людзі, трапіўся востры на шылаватага. Матэрыялы па спробе махлярства перададзены ў праваахоўныя органы, дзе завялі справу на надзвычай кваліфікаваных астапаў.*

## КРИМИНАЛ

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

### НА «БИС» — НЕ ПОЛУЧИЛОСЬ

Есть примета, что преступник рано или поздно возвращается на место содеянного. Пусть это не всегда удается зафиксировать, но такой факт в криминальной сводке отмечен позавчера. Глубокой воскресной ночью в подвале одного из домов при попытке взлома сараев задержали двух оболтусов 1964-го и 1970-го годов рождения. А вскоре выяснилось, что именно эти двое «экспроприаторов» уже поживились здесь, но только тремя днями ранее. Словом, на «бис» не удалось. Вот вам и народная мудрость...

### СВАРЩИК У СВАРЩИКА...

Похвальную бдительность проявили на днях сотрудники МГО «Охрана». Их подозрение вызвал неизвестный, который копошился у сварочного аппарата. Происходило это на территории строительной площадки одного из жилых домов по улице Горецкой. Милиционеры возьми и проверь загадочную личность — и попали в точку. Хоть гражданин А. и электросварщик СУ-246, но к конкретному аппарату он не имел никакого отношения. Его интересовал 60-метровый медный кабель. А нездоровый интерес, сами понимаете, положено пресекать.

■ НАВІНЫ СУСЕДЗЯЎ

### КАРОСТА АПАНАВАЛА ВІЛЬНЮ

Больш за паўтары тысячы віленчукоў сёлета захварэлі на каросту. Урачы сцвярджаюць, што гэта небяспечная сітуацыя. Паводле даных грамадскага цэнтра гігіены, у так званы спакойны перыяд (1980-1990 гады) штогод на каросту захворвалі не больш за некалькі соцень віленчукоў. 60 працэнтаў хворых — дарослыя людзі, у тым ліку 48 працэнтаў — падарожныя гандляры. Гігіеністы лічаць, што ў горадзе створаны вельмі спрыяльныя для пашырэння хваробы ўмовы: не працуюць лазні, жыхары рэдка атрымліваюць гарачую ваду, з-за дарагоўлі мала хто карыстаецца пральняй і хімчысткай. У такіх умовах Вільня захоўвае лідэрства ў краіне не толькі па каросце, але і па вошах.

### ПАДАРОЖНІКАЎ ЗАКЛІКАЛІ ЗАХОЎВАЦЬ ГІГІЕНУ

Літоўскі цэнтр гігіены паінфармаваў пра эпідэміялагічную сітуацыю ў сувязі з выпадкамі халеры ў свеце. Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, на працягу чэрвеня-жніўня гэтага года ў свеце зарэгістравана больш за 48 тысяч захворванняў на халеру, у выніку чаго 1176 хворых памерлі. Халера пашыраецца на ўсіх кантынентах.

Літоўскі цэнтр гігіены заклікае ўсіх, хто часта падарожнічае, сурова выконваць правілы асабістай гігіены.

Андрэй КОРСАК, уласны кар. БелаПАН у Вільні.

### ХАЛЕРЫ ТОЛЬКІ НЕ ХАПАЛА

У Эстоніі выяўлены два выпадкі захворвання на халеру. Аб гэтым афіцыйна паведаміў прэсе галоўны санітарны ўрач краіны. З сімптомамі халеры першапачаткова было шпіталізавана пяць чалавек, усе яны — жыхары горада Йыгевы, якія нядаўна пабывалі ў Турцыі. Аднак лабараторныя аналізы паказалі наяўнасць халернай палачкі толькі ў двух з захварэўшых, прычым у аднаго з іх хвароба праходзіць у лёгкай форме, у другога — у форме сярэдняй цяжкасці.

Па заяве галоўнага санітарнага ўрача, у рэгіёне прыняты ўсе неабходныя меры, каб спыніць распаўсюджванне хваробы.

### ВЫГАДНА НЕ ЗАБРУДЖВАЦЬ

Пяць былых аэрадромаў і склады гаручага расфарміраваных воінскіх часцей, якія знаходзіліся на тэрыторыі Эстоніі, з'яўляюцца сур'ёзнай пагрозай для навакольнага асяроддзя рэспублікі. У шэрагу месц газа пранікла ў грунтовыя воды.

Дапамогу ў ліквідацыі вынікаў гэтага забруджвання ўзялася аказаць Данія. Сур'ёзнай праблемай з'яўляюцца іншыя адходы і хімікаліі. На расходы па ліквідацыі ўрону, нанесенага навакольнаму асяроддзю Эстоніі, з рэспубліканскага бюджэту выдзелена ўжо тры мільёны крон.

### ДАТАЦЫІ ДЛЯ ВЫБРАНЫХ

Спаслаўшыся на міністра энергетыкі Эстоніі Арва Нійтэнберга, газета «Пяэвалехт» паведаміла сваім чытачам, што дзяржава не будзе больш кампенсаваць вытворцам цяпла розніцу паміж рэальнымі затратамі і ўстаноўленай гранічнай цаной у 150 крон за гігакалорыю. Датацыі будуць выплачвацца толькі тым жыхарам, чые расходы на цеплавую энергію перавышаюць 25 працэнтаў даходу.

БЕЛІНФАРМ.

■ ПАРТАКТИВ

## ПЛЮС-МИНУС БЕЛАЯ ПОЛОСКА...

Известно, что флаги двух соседних государств — Беларуси и Польши — различаются лишь наличием либо отсутствием на них третьей белой полосы. И если у западного соседа организация, отстаивающая третью полоску, то есть Объединение белорусов Польши, была создана уже давно, то партия, которая, условно говоря, охраняла бы двухцветный польский флаг в Беларуси, родилась только сейчас.

Польское демократическое объединение (ПДО) — такое название было утверждено на I установочном съезде партии, состоявшемся в Минске в минувшую субботу. Были приняты решение о создании ПДО и основные программные документы, избран актив.

Граждане республики польского происхождения настроены серьезно: в уставе ПДО присутствуют тезисы о политической борьбе и разработке законопроектов для Беларуси. Однако партия вовсе не ставит своей целью восстановление «польского часу» в республике, а всячески поддерживает движение Беларуси к правовому государству, независимости и интернационально-культурному возрождению. «Мы не польская общественная организация, мы — одна из политических партий Беларуси», — было заявлено с трибуны съезда.

Перед делегатами выступил детский хор СШ № 15 города Барановичи. По окончании съезда состоялся банкет.

Александр ПИЛЬКЕВИЧ, РИД.

■ РЭХА ПАДЗЕІ

## ЖЫЦЦЁ ПАД ЗНАКАМ ГВАЛТУ?..

Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.

У Мінскім сексалагічным цэнтры адбыўся «круглы стол» на тэму «Ахвяры сексуальнага гвалту». У яго рабоце прынялі ўдзел супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў, псіхолагі, педагогі, журналісты, а таксама прэзідэнт Беларускай сексалагічнай асацыяцыі Дзмітрый Капусцін.

Як вынікае са статыстычных даных, што прагучалі падчас пасяджэння, колькасць злачынстваў на сексуальнай глебе працягвае расці. Калі ў 1986 годзе было здзейснена 358 злачынстваў такога роду, то ў 1992 годзе гэта лічба павялічылася ўжо ў два разы. За восем месяцаў 1993 года здзейснена 447 злачынстваў на сексуальнай глебе. Рэальная ж лічба значна большая, бо, як правіла, з 10 ахвяр згвалтавання ў міліцыю звяртаецца толькі адна. Згодна з данымі ананімнага апытання, якое было праведзена сексалагічным цэнтрам у некаторых мінскіх школах, 17 працэнтаў дзяўчынак хоць аднойчы падвяргаліся сексуальнаму гвалту.

У Мінскім сексалагічным цэнтры адкрыты кабінет рэабілітацыі ахвяр сексуальнага гвалту, дзе пацярпелым аказваюць кваліфікаваную медыцынскую і псіхалагічную дапамогу. Кругласутачна працуе ў Мінску і тэлефон даверу — 46-11-11. Цікавы той факт, што тэлефануюць туды часцей за ўсё мужчыны, якія падвергліся гомасексуальнаму гвалту.

